■ ФІНАНСЫ

## Па стане на 1 кастрычніка заменена палова грашовых знакаў старога ўзору

**МІНСК. У Беларусі заменены 51% грашовых купюр старога ўзору. Такія звесткі БелаПАН паведаміў прэс-сакратар Нацыянальнага банка Беларусі Міхаіл Журавовіч. Па ягоных словах, «старыя» грошы больш не паступаюць у абарачэнне і цяпер будуць выдаляцца з абароту больш актыўна.**

З 1 студзеня 2001 года на тэрыторыі Беларусі спыняецца абарачэнне разліковых білетаў узору 1992–1999 гадоў выпуску. З гэтай даты ўказаныя грашовыя знакі страчваюць плацежаздольнасць і не падлягаюць прыёму ва ўсе віды плацяжоў. Цяпер у Беларусі знаходзяцца ў абарачэнні старыя грашовыя знакі, а таксама ўведзеныя сёлета ў абарот новыя купюры наміналам 1, 5, 10, 20, 50, 100, 500, 1.000 і 5.000 рублёў. З 1 снежня ўсе банкаўскія ўстановы будуць выдаваць кліентам разліковыя білеты толькі новага ўзору.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

# У Ласях і бульба «ласіная»

МАЛАДЗЕЧНА. Гэтыя бульбіны дачнік **Аляксандр Салагуб** есці не збіраецца. Летась яму далі ўсяго адну – «на развод». Цяпер, адпаведна, ураджай ён не знішчыць за абедзенным сталом, а пакіне на насенне (уявіце сабе гэтае кілаграмовае насенне).

З 18 бульбін, што выраслі пад адным калівам, трапляліся вагой і больш за кілаграм.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Ураджай сабраны на звычайнай дачы ў Ласях.

## Курсы валют НБ РБ

| | 12 кастрычніка | 19 кастрычніка |
|---|---|---|
| Долар | 1048,00 руб. | 1048,00 руб. |
| Нямецкая марка | 468,99 руб. | 458,54 руб. |
| Літ | 261,93 руб. | 261,9 руб. |
| Расійскі рубель | 37,62 руб. | 37,60 руб. |
| Злоты | 228,25 руб. | 224,32 руб. |
| ЕЎРА | 917,26 руб. | 896,83 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1055 – 1065 руб. | 1060 – 1075 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 11.10 | 18.10 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1450 | 1450 |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 4710 | 4800 |
| Сасіскі, 1 кг | 1580 | 1600 |
| Селядзец, 1 кг | 950 | 960 |
| Рыс, 1 кг | 360 | 380 |
| Грэчка, 1 кг | 530 | 500 |
| Цукар, 1 кг | 490 | 510 |
| Алей, 1 л | 740 | 740 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 490 | 592 |
| Маянэз, 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле", 100 г | 950 | 1000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 320 | 330 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 350 | 320 |
| Лімоны, 1 кг | 950 | 950 |
| Апельсіны, 1 кг | 680 | 690 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 140 | 180 |
| Капуста, 1 кг | 60 | 70 |
| Морква, 1 кг | 80 | 130 |
| Кавун, 1 кг | 200 | 200 |
| Вінаград, 1 кг | 800 | 700 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 800 | 800 |
| Масла, 1 кг | 1700 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 600 | 600 |
| Малако, 1,5 л | 300 | 300 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 700 | 700 |
| Бульба, вялікае вядро | 500 | 450 |
| Морква, 1 кг | 140 | 150 |
| Памідоры, 1 кг | 550 | 500 |
| Яблыкі, 1 кг | 150 | 180 |
| Грушы, 1 кг | 350 | 250 |

■ ЭКАНОМІКА

## 90 беларускіх прадпрыемстваў удзельнічаюць у традыцыйнай мэблевай выстаўцы–кірмашы

**МІНСК. 90 прадпрыемстваў розных форм уласнасці бяруць удзел у 7-й спецыялізаванай аптовай выстаўцы–кірмашы «Мэбля-2001», якая адкрылася ў Мінску 16 кастрычніка. Яна арганізаваная канцэрнамі «Беллеспаперпрам», «Белмясцпрам» і Нацыянальным выставачным цэнтрам «Белэкспа».**

Восеньская мэблевая выстаўка-кірмаш праводзіцца ў Беларусі традыцыйна. Яе асноўная задача — вызначэнне асартыменту мэблевай прадукцыі на 2001 год з улікам попыту на канкрэтныя ўзоры. Экспазіцыя размясцілася на тэрыторыі трох выставачных павільёнаў. Ад канцэрна «Беллеспаперпрам» у ёй удзельнічаюць 25 вядучых мэблевых прадпрыемстваў рэспублікі, у ліку якіх «Маладзечнамэбля».

Работа аптовай выстаўкі-кірмашу «Мэбля-2001» працягнецца да 20 кастрычніка.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

■ СПАЖЫВЕЦ

## За ацяпленне трэба плаціць у любым выпадку

**МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак жыхар горада падаў наступную заяву ў таварыства абароны спажыўцоў:**

– Я беспрацоўны. У сувязі з гэтым і ростам цэнаў на камунальныя паслугі з тэндэнцыяй павышэння ў 2, заўтра ў 10, паслязаўтра ў 100 разоў, я адмаўляюся ад паслуг ацяплення маёй кватэры (двух пакояў), таму што не змагу аплачваць. Прашу адключыць ацяпленне ў двух пакоях (тэхнічна гэта можна зрабіць) і пакінуць ацяпленне на кухні. Цяпер жыву ў сяброў на дачы, якая ацяпляецца печкай.

Каменціруе старшыня таварыства **Уладзімір Клешч**:

– Работнікі электрасетак пацвярджаюць, што тэхнічна выканаць просьбу заяўніка магчыма. Для гэтага патрэбна зрэзаць батарэі і паставіць заглушкі. Але танней, усё ж, плаціць за ацяпленне.

Юрыст таварыства **Аляксандр Жураўлёў** параіў уладкавацца на работу. Мужчыну ў Маладзечне гэта зрабіць магчыма.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## З «Самсунгам» па жыцці

АСТРАВЕЦ. Варшаўская арганізацыя "Вспульнота польска" і ГА "Саюз палякаў Беларусі" падарылі польскаму класу СШ №1 Астраўца тэлевізар "Самсунг". Акрамя тэлевізара, палякі прывезлі мноства падручнікаў, слоўнікаў і польскую прэсу.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Дзіця загінула ад цыгарэты

**ВІЛЕЙКА. Тут загінуў хлопчык 1998 года нараджэння. Ён атруціўся ў выніку пажару.**

27–гадовы віляйчанін вырашыў пакурыць, лежачы на ложку ў спальні. Можа, таму, што быў у нецвярозым стане, гаспадар кватэры заснуў. У выніку адбыўся пажар.

Згарэла маёмасць у спальні, задыміліся астатнія пакоі. Гора–курыльшчык атрымаў нязначныя апёкі і быў дастаўлены ў бальніцу.

**Аддзел інфармацыі.**

## Смерць ад «кайфу»

АСТРАВЕЦ. Дзевяцігадовы хлопчык з вёскі Ізабеліна Астравецкага раёна задыхнуўся, калі надзеў сабе на галаву поліэтыленавы пакет з бензінам. Бацькі знайшлі яго паблізу ад свайго дома, але дапамагчы чым-небудзь ужо было позна. Пракуратура праводзіць расследаванне.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ САНЭПІД ПАВЕДАМЛЯЕ

# Радыяцыя на кантролі

### Аналіз стану радыелагічных даследаванняў харчовай прадукцыі за 9 месяцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Радыелагічныя пасты харчовых прадпрыемстваў кантралююць якасць сыравіны і гатовай прадукцыі на прадмет радыелагічнага забруджвання.**

У лабараторыі ветэрынарна–санітарнай экспертызы на калгасным рынку даследавана 9421 проба, у 40 пробах грыбоў і ў 4 узорах дурніц і чарніц выяўлена перавышэнне ўтрымання радыенуклідаў. Мясная, малочная прадукцыя, мёд і яйкі былі "чыстыя".

На харчовых прадпрыемствах даследаваная значная колькасць сыравіны і гатовай прадукцыі:

ДП "Антанопаль"–406 узораў. Птушкафабрыка – 215; ААТ "Маладзечанскі ГМЗ" – 11831, толькі аднаго сырога малака даследавана 8888 узораў. СП "Акдзімол"– 406, КУП "Красненскі кансервавы завод" – 797, мясаперапрацоўчы цэх калгаса "Гарадзілава" – 151 узор. Прадукцыі, забруджанай радыенуклідамі, не было выяўлена. "Чыстая" была і прадукцыя піўзавода і харчкамбіната.

Па–ранейшым не арганізаваны належным чынам радыелагічны кантроль харчовай прадукцыі ва УП "Маладзечанскага каапнарыхтпрама", а ў ААТ "Маладзечнагароднінагандаль", наогул, ніякага кантролю няма.

Радыелагічны пост райЦГіЭ даследаваў 589 пробаў сыравіны і гатовай прадукцыі з вытворчага сектара і 569 узораў ад прыватных асоб, а таксама 202 пробы з іншых раёнаў. Знойдзена перавышэнне утрымання радыенуклідаў цэзію ў 42 пробах, у тым ліку, 38 проб грыбоў, 1 проба свежых чарніц і 3 пробы лекавай сыравіны.

Нагадаем, забруджаныя грыбы і ягады дастаўляліся не толькі з Маладзечанскага раёна, а з суседніх, прычым, з Вілейскага раёна была найбольшая колькасць забруджаных узораў.

Неабходна памятаць, што ў лесе могуць быць забруджаныя радыенуклідамі не толькі грыбы, ягады, мох, драўніна, лішайнік, лекавыя травы, дзікія птушкі і жывёлы.

З дзікіх жывёл больш за ўсё назапашваюць радыенукліды кабан і заяц, некалькі менш – лось, алень.

Пачаўся паляўнічы сезон, таму просім адміністрацыю "Маладзечанскай паляўнічай гаспадаркі" даставіць у нашу лабараторыю ўзоры дзічыны для правядзення радыелагічных даследаванняў з мэтай выяўлення сапраўднай карціны радыяцыйнага стану нашых лясоў.

У абласным ЦГіЭ праведзеныя радыехімічныя даследаванні на утрыманне стронцыю-90 і гама-спектраметрычныя даследаванні на ўтрыманне цэзію-137 харчовых прадуктаў гармалзавода, хлебазавода; дзіцячай малочнай кухні, малака з МТФ калгаса "Герой труда".

Утрыманне ўказаных радыенуклідаў не перавышае дапушчальных узроўняў.

**Аддзел радыяцыйнай гігіены Маладзечанскага РЦГіЭ.**

■ НАВУЧАННЕ

## «Шасцёрка» для навучэнцаў

МЯДЗЕЛ. Новыя "Жыгулі" набыў вучэбна-вытворчы камбінат. Цяпер будзе добра навучацца школьнікам і дарослым. "Шасцёрку" набылі за грошы, атрыманыя ад платных груп, а таксама за ахвяраванні бацькоў школьнікаў, што навучаюцца ў вадзіцельскіх групах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

